Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 ЖНІЎНЯ 2020 г.

СТОП-КАДР




Шахцёры "Беларуськалія" раяцца, якую форму павінен прыняць іх пратэст у сувязі з беспрэцэдэнтнымі фальсіфікацыямі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

Фота Дзмітрыя БРУШКО. *(TUT.BY)*

ПРАПАНОВА!

# Новая Канстытуцыя павінна з'явіцца ў абсалютна іншых, чым сёння, умовах

Лукашэнка супакойвае грамадскасць: будзе новая Канстытуцыя, ужо ёсць некалькі праектаў. Лічу такі варыянт недапушчальным.

Спачатку неабходна змяніць усю піраміду ўлады. Новая Канстытуцыя можа з'явіцца толькі пры новым прэзідэнце, новым парламенце і новай Цэнтральнай выбарчай камісіі. Мы што, не ведаем, якімі катэгорыямі мысліць Аляксандр Лукашэнка і што ён хоча захаваць у Канстытуцыі? Як ведаем і тое, што сабой уяўляюць прызначаныя ім дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Яны прагаласуюць за вынясенне на рэферэндум таго праекта, які будзе прадстаўлены Лукашэнкам. А калі вертыкаль, як сёння, будзе фарміраваць участковыя і тэрытарыяльныя камісіі, то ў іх застануцца ўсё тыя ж людзі, якія сфальсіфікавалі вынікі галасавання падчас нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў. Такое ж, я ўпэўнены, будзе і пры правядзенні рэферэндуму па прыняцці новай Канстытуцыі.

Вось чаму я лічу, што новы Асноўны закон краіны павінен з'явіцца ў абсалютна іншых, чым сёння, умовах. Распрацоўка яго праектаў – гэта ўжо справа новага прэзідэнта і новага парламента. А правядзенне рэферэндуму па прыняцці новай Канстытуцыі павінна быць пад кантролем, вядома ж, абсалютна новага складу Цэнтральнай выбарчай камісіі і ўсіх-усіх участковых і тэрытарыяльных камісій.

**Сяргей ІВАНЦОЎ, выбаршчык.**

РЭЗАНАНС

# Студэнты і супрацоўнікі Белдзяржуніверсітэта не сляпыя

На вочы трапіўся зварот рэктара Белдзяржуніверсітэта **Андрэя Караля** да студэнтаў і супрацоўнікаў ВНУ. На што звярнуў увагу? Ён кажа пра тое, што *"ў нашай міралюбівай Беларусі з'явілася месца насіллю і агрэсіі"*. Маўляў, шкада, што ігнаруецца аснова *"ўстойлівага развіцця любога грамадства – талерантнасць і дыялог"*.

Як быццам правільна сказана, але спадар Кароль замоўчвае галоўнае – хто справакаваў насілле і агрэсію? Няўжо рэктар універсітэта не ведае, што вынікі волевыяўлення народа падчас прэзідэнцкіх выбараў у нас брутальна сфальсіфікаваны? І ці не пад дыктоўку Лукашэнкі дзейнічала ў гэтым плане ўся вертыкаль? Усяму грамадству вядома, як нахабна чыноўнікі розных узроўняў выкручвалі рукі старшыням і членам выбарчых камісій, прымушаючы іх перапісваць пратаколы ва ўгоду Лукашэнку.

Такім чынам, спадар Кароль, трэба не баяцца назваць першапрычыны той драматычнай сітуацыі, якая склалася ў краіне па віне Лукашэнкі і яго бліжэйшага атачэння. Студэнты і супрацоўнікі ўніверсітэта, які вы ўзначальваеце, не сляпыя, яны ўсё бачаць і разумна ацэньваюць. У тым ліку і ваш зварот – не прынцыповы, а скіраваны на тое, каб адвесці ўвагу калектыву галоўнай навучальнай установы краіны ад тых высокіх асоб, якія справакавалі палітычны і нацыянальны крызіс у Беларусі.

**Пётр ЗАВАЛЬНЮК.**

ВЗГЛЯД ПРОСТОГО ЧЕЛОВЕКА

# Он привык, чтобы ему постоянно поддакивали

Я обычный гражданин, но активно интересуюсь политикой. И когда узнал о митингах в Минске, решил принять участие в марше «За свободу!».

Размах акции меня поразил. Сотни тысяч минчан разного возраста заполнили всю территорию около стелы «Минск – город-герой». Никаких выпивших, никаких провокаторов, никаких нарушений.

Автобусы с ОМОНом появились, но, глядя на такое огромное количество протестующих, тут же исчезли. А в это время люди скандировали «Уходи! Уходи! Уходи!», «Позор, позор!». Везде развевались бело-красно-белые флаги явно не ручной работы.

Собираясь на шествие, я решил донести до общественности свою позицию, изготовив плакат с надписью «Россия – да, Лукашенко – нет». Но скоро понял, что мою позицию принимают не все участники марша, по крайней мере в том месте, где был я. Звучали заявления: мы будем в Евросоюзе, а с Россией будем дружить. На мой ответ, что в Евросоюзе нас никто не ждет, были советы: тогда мы будем сами по себе. Чего в реальной жизни, я считаю, не бывает.

Вслед за участниками акции я прошествовал до площади Независимости и опять удивился: какое множество людей!

А вскоре стало известно: Лукашенко начал свой «поход в массы». Кто-то ему это, видимо, подсказал. На той же площади Независимости собрались, а точнее съехались со всей Беларуси, представители его электората во главе с вертикальщиками. Но это была совсем малочисленная акция по сравнению с маршем «За свободу!». Хотя под телекартинку многие орали «За батьку!» так, будто он их родной отец.

Но вот назавтра Лукашенко полетел на вертолете к рабочим завода колесных тягачей, и там все закончилось для него полным фиаско. Представляете, один из трудяг послал его на три буквы. И тут оказалось, что он не умеет нормально говорить с людьми. Он привык, чтобы ему постоянно поддакивали. А рабочие решили высказать ему в открытую все, что наболело. Когда он стал гнуть свою линию, люди стали дружно скандировать: «Уходи! Уходи! Уходи!»

Парадокс, но Лукашенко можно назвать основным организатором протестных маршей и митингов. Он виновен в беспрецедентных фальсификациях результатов выборов. Он виновен в том, что мирные протестные акции обагрились кровью.

Чтобы в стране воцарился мир, нужно провести новые выборы с соблюдением всех демократических норм. Под контролем международного сообщества. Дать возможность участвовать в них тем, кого Лукашенко без суда и следствия спрятал за решетку.

В конце концов благоразумие должно восторжествовать на нашей многострадальной земле.

**Александр ЗАККИС, минчанин.**

З НАГОДЫ

# Куды вы прывялі Беларусь?

Лукашэнкаўскі міністр Макей звярнуўся да міністраў замежных спраў ЕС з просьбай не ўводзіць санкцыі. Песня тая ж, што і ў 2010 годзе: мы страцім тэмп, гэта адкіне Беларусь назад…

У 2010 годзе кіраўнікі краін ЕС на гэта не адразу, але павяліся. Рэжыму аказвалася і палітычная, і тэхналагічная, і фінансавая дапамога.

І як далёка наперад рушыла Беларусь? Куды вы з Лукашэнкам, спадар Макей, яе прывялі?

Сапраўды далёка. Туды, куды, здаецца, ужо і дарогі няма. Да звычайнага…

І хочаце весці далей?..

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

КАРЦІНА ЖЫЦЦЯ

# Беларусы і… беларусы

Адны беларусы вяртаюць былым настаўнікам і прыносяць пад свае школы залатыя медалі і ганаровыя граматы за добрую вучобу і перамогі ў алімпіядах; другія беларусы чапляюць на сябе медалі і ордэны, якія атрымліваюць за гвалт, за здзек з затрыманых, за катаванні зняволеных, за трапны стрэл у бяззбройнага пратэстоўца, за кіданне гранаты ў машыну з людзьмі...

**Адам ГЛОБУС.**

КАК ЭТО БЫЛО...

# Честный подсчет

В воскресенье 9 августа, в день выборов Президента Республики Беларусь, корреспондент «Вечернего Бобруйска» присутствовала на подсчете голосов на участке №32. Вот как она описывает происходящее...



Избирательный участок №32 располагался в здании «Бобруйских электрических сетей» на улице Урицкого. К нему было приписано всего около 300 избирателей, проживающих в основном в частном секторе.

Председатель комиссии **Леонид Бересневич** не препятствовал присутствию корреспондента как на самих выборах, так и в момент подсчета голосов, только записал в специальный журнал мою фамилию и другие необходимые данные.

Участок закрыли ровно в 20.00. После этого избирательная комиссия приступила к процедуре подсчета.

Сначала пересчитали и «погасили» (отрезали уголки) неиспользованные бюллетени, потом пересчитали их еще раз и упаковали.

Затем распечатали урну для досрочного голосования. Подняли ее и высыпали содержимое на стол. Распределили по стопкам, и каждый член комиссии разделил доставшиеся ему бюллетени на стопки по кандидатам. (Для удобства на столах комиссии находились таблички с фамилиями.)

Пересчитали количество бюллетеней в стопках за каждого кандидата. Суммировали результат по каждому.

Сформировали общие стопки за кандидатов и снова все пересчитали.

После этого аналогичным образом поступили с урной для надомного голосования и с урной для голосования на участке в день выборов.

Бюллетени тщательно считали и пересчитывали.

После того как все было подсчитано, бюллетени упаковали в специальные конверты, запечатали, на каждом из них сделали соответствующую надпись о количестве в нем бюллетеней за того или иного кандидата. Составили итоговый протокол, который и вывесили у входа на избирательный участок.

**Итоги голосования на этом участке были такими:**

Дмитриев – 1 голос.

Канопацкая – 0 голосов.

Лукашенко – 124 голоса.

Тихановская – 170 голосов.

Черечень – 3 голоса.

Против всех – 19.

Работе журналиста при этом никто не препятствовал, члены комиссии не имели ничего против съемки.

**P.S.** *Вот так бы честно, открыто, гласно провести выборы по каждому избирательному участку и теперь не было бы драматической ситуации, которая сложилась в стране. Дай Бог, чтобы в Беларуси нашлись разумные головы, которые вместе со всей широкой общественностью смогут вывести страну на демократический путь развития, когда будет торжествовать правда, а не ложь, когда любым противозаконным манипуляциям с голосами миллионов избирателей будет поставлен заслон.*

**Ирина ХАМРЕНКО-УШАКОВА.**

РЭХА

# Наязджаў, як танк…

Паважаная рэдакцыя! Рада, што газета ў гэты складаны час трымае "руку на пульсе" падзей і не страчвае набраную вышыню. Як чытачка я проста ў захапленні ад артыкула Антона Загорскага пра тое, як віцебскі вертыкальшчык уломваў выбарчую камісію пераразмяркаваць галасы (нумар за 14 жніўня). Цаны няма прыведзенаму там дыктафоннаму запісу! Цешыць, што на старонках "Народнай Волі" – наша жыццё, якое ёсць, наша сумная рэчаіснасць, нашы клятыя выбары... А гэтак стараўся, гэтак пераконваў, гэтак наязджаў – як танк гусеніцамі! Даводзіў, што не час быць прынцыповымі. А калі настане той час? Хіба калі нас усіх апусцяць да самага плінтуса... Малайцы, народавольцы! Так трымаць!

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

БЛАГОДАРНОСТЬ

# Спасибо, что вы есть!

*Большое спасибо, «Народная Воля», что вы с народом Беларуси в такое сложное время!*

Я как подписчик хочу сказать, что даже в случае возможного запрета печатной версии газеты, которая более предпочтительна для меня, продолжу выписывать «Народную Волю» в PDF-версии.

Держитесь!

Жыве Беларусь!

**Александр КАБЕРДИН.**

Я ВАМ ПИШУ...

# «Жизнь долгой никогда не кажется...»

Прожить жизнь достойно – великое искусство. Хочу рассказать, как прожила свою непростую жизнь моя свекровь Фёкла Евменова. Она рано овдовела – муж умер еще в 1920-е годы, оставив у вдовы на руках двухмесячного сына Ивана и двухлетнюю дочь Марию. И ей одной пришлось ставить детей на ноги. Очень добросовестная и трудолюбивая, свекровь всю жизнь работала в колхозе за мизерную плату, которой не хватало, чтобы свести концы с концами. Нужно было иметь большое мужество, чтобы выжить.

Сама неграмотная, Фёкла Авраамовна очень хотела дать детям образование. И они, в домотканой одежке, кое-как обутые, ходили за 8 километров от дома в школу в деревне Ленино (бывшее Романово) Горецкого района. Единственной радостью для матери было то, что дети хорошо учились.

Только сын окончил 10 классов, как грянула война. И он, активный комсомолец, добровольцем ушел на фронт. А на войне как на войне – ранение, плен, побег и снова действующая армия.

Мать четыре долгих года ничего не знала о судьбе сына, своей кровиночки. Только молилась...

В самом начале войны немецкая бомба угодила в ее хату в деревне Городец. Она осталась без крыши над головой.

Когда пришло освобождение, свекровь с дочерью натаскали на плечах бревен из опустевших немецких бункеров и построили небольшую избушку. Тяжелой работой Фекла Авраамовна надорвала свое здоровье и страдала всю оставшуюся жизнь.

Только в 1947 году вернулся из армии сын, поступил в университет, окончил с отличием и был направлен в Мядельский район. Работал учителем, завучем, директором средней школы в Кобыльнике (теперь деревня Нарочь).

Дочь Мария тоже окончила университет и преподавала историю в Ленинской школе Горецкого района.

Когда свекрови жить в деревне стало невмоготу по состоянию здоровья, сын забрал ее к себе. И она прожила в нашей семье 17 бесконфликтных лет.

Тяжелая жизнь не ожесточила Феклу Авраамовну. Она была добрейшей души человеком. И когда умерла, прожив 74 года, я так ее оплакивала, что пришедшие проститься люди сказали: «Мы никогда не видели, чтобы невестка так убивалась по свекрови».

За несколько лет до смерти я как-то спросила ее, не показалась ли ей жизнь долгой? Она задумалась и ответила: «Жизнь долгой никогда не кажется. Она – миг. Вот будто вчера были маленькими дети, а сегодня уже помирать пора».

Спустя много лет, когда мне самой стукнуло 90, я готова подтвердить слова свекрови: жизнь быстротечна. Для меня она пронеслась со скоростью ураганного ветра. Надо спешить жить, чтобы успеть осуществить все задуманное. Дважды живут только в сказках. Свою единственную жизнь нужно прожить достойно, чтобы потом не чувствовать угрызений совести, чтобы детям и внукам за тебя не было стыдно. Так прожила отведенный ей срок моя свекровь Фёкла Авраамовна Евменова.

**Леокадия ЕВМЕНОВА.**
***д. Нарочь Мядельского района.***

САЛІДАРНАСЦЬ




Работнікі фешэн-індустрыі на акцыі салідарнасці каля Беларускага цэнтра моды.

Фота Яўгенія ЕРЧАКА. *(TUT.BY)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 ЖНІЎНЯ 2020 г.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

Антон ГЕРАЩЕНКО, заместитель министра внутренних дел Украины:

# «Убийцы были исполнителями чужой воли»

## Кто ответит за смерть Павла Шеремета?

18 августа закончился срок ознакомления подозреваемых лиц по делу об убийстве нашего земляка журналиста Павла Шеремета. Это означает, что скоро оно поступит в суд и обществу будут предъявлены доказательства, собранные следствием.

Накануне наш корреспондент **Александр ФЕДУТА** встретился с заместителем министра внутренних дел Украины **Антоном ГЕРАЩЕНКО** и попросил его высказаться по поводу ситуации, сложившейся вокруг следствия в общественном мнении Украины. До сих пор представители МВД старались не комментировать заявления адвокатов и подозреваемых, строго соблюдая закон и тайну следствия.

В своих вопросах наш корреспондент исходил из того, что читатели «Народной Воли» неоднократно получали информацию о том, какие версии убийства обсуждаются в Украине. Вместе с тем напомним: сегодня в качестве подозреваемых в убийстве нашего земляка проходят участник специальных операций **Андрей Антоненко** (мирная профессия – музыкант), военный медик **Яна Дугарь** и волонтер (детский врач) **Юлия Кузьменко**. Именно мирная специализация подозреваемых и их участие в Антитеррористической операции на Востоке Украины дали повод общественности считать, что следствие – сознательно или случайно – пошло по ложному следу. Но иногда ошибается не только следствие, но и общественное мнение.



**– В прессе неоднократно публиковались заявления о том, что раскрытие обстоятельств убийства Павла Шеремета является делом чести для целого ряда высоких должностных лиц – от бывшего начальника Департамента полиции до бывшего президента Украины. Насколько, по вашему мнению, такое внимание гарантировало беспристрастие следствия?**

– Убийство известного человека в любой стране мира находится под пристальным контролем руководства страны. Например, убийство президента Кеннеди – вы ведь не скажете, что ход его расследования не контролировало руководство ФБР? Я, конечно, не сравниваю Кеннеди и Шеремета, но очевидно, что и министр внутренних дел, и генеральный прокурор Украины постоянно контролировали ход следствия.

**– Но у нас в Беларуси такая ситуация: когда президент говорит, что дело находится под его контролем, то результат и приговор предрешены, трактовка главы государства становится доминирующей.**

– Украина и Беларусь – разные государства. Украина – страна демократическая; у нас за последние двадцать пять лет сменилось пять президентов, в то время как в Беларуси президент не менялся. У нас вполне демократические подходы. Мало того: у нас развитая свобода слова, и каждый желающий может высказывать свое мнение сколько хочет, на всех центральных телеканалах. Средства массовой информации предоставили широчайшее поле для защиты интересов подозреваемых. Они дают заочные интервью, отвечают на вопросы журналистов. Яна Дугарь, находящаяся под домашним арестом, дает пресс-конференции. Есть адвокаты; общее количество адвокатов, насколько я помню, полтора десятка на троих, и адвокаты тоже дают бесконечные комментарии. А у следствия есть возможность и обязанность предоставить обвинение, основанное на доказанных нами фактах.

**– Кстати, об адвокатах. Адвокаты много говорят о недостоверности представляемых следствием доказательств, на которых базируются обвинения.**

– На первом брифинге, который мы провели по «делу Шеремета», была изложена вся история вопроса. Следствие рассказало, как вышло на предполагаемых убийц, были приведены записи множества разговоров, в которых, как мы считаем, прослеживается прямая связь подозреваемых граждан с убийством Шеремета. Например, детский хирург Кузьменко переживает, что у нее могут быть обыски по делу Шеремета. Если она – детский хирург, почему бы ей переживать и почему у нее должны, по ее мнению, быть обыски? Почему супруги Грищенко радовались гибели некоего Ивана по кличке «Пистолет», покончившего с собой после приглашения на допрос к следователю по поводу убийства журналиста? Конечно, защита может говорить о чрезмерной возбудимости «Пистолета», покончившего с собой из-за переживаний, – но почему это вызывает такую радость?

Да, может быть, он был возбудимым. Но следствие считает, что «Пистолету» было что скрывать по делу Шеремета. А супругам «Буче» и «Пуме» Грищенко тоже было что скрывать, поэтому они откровенно радуются гибели своего товарища.

Что же касается прямых доказательств, то есть портретная экспертиза госпожи Дугарь, которая, по мнению следствия, выполняла функцию разведки. Там есть фотопортретная экспертиза, не только экспертиза походки, на которую ссылаются адвокаты. Кто-то скажет, что они не похожи, но эксперты говорят, что девушка, проводящая разведку, и Яна Дугарь – это одно и то же лицо.

Ни у одного из трех подозреваемых нет гарантированного алиби. Например, господину Антоненко пытались сделать алиби его друзья, заявляя в день его задержания, что во время убийства он находился у одного из них дома. Потом, во время допроса, тот же человек утверждает: ой, я ошибся, Антоненко был у меня тремя днями ранее. А теперь господин Антоненко, когда его спрашивают журналисты, зачем ему делали фейковое алиби, заявляет: я никого ни о чем не просил, и это полиция попросила моего товарища, чтобы меня таким образом подставили.

То есть, подытожу, выводы следствия строятся на совокупности косвенных доказательств и прямом доказательстве – экспертизе походки предполагаемых убийц, оставшейся на видеозаписи с камеры наблюдения. Походка человека в разные периоды его жизни уникальна, и в данном случае идентификация проведена точно. Если бы Антоненко весил в момент убийства на килограммов двадцать-тридцать больше или меньше, экспертизу можно было бы подвергать сомнению. Но в данном случае эксперты и следствие убеждены в точности результата: Антоненко и Кузьменко были исполнителями, Дугарь была пособницей и выполняла разведку.

Могу еще сказать: вообще мы большинство преступлений раскрываем в течение десяти-двадцати дней. Вот, например, сейчас мы в течение десяти дней раскрыли террористов, разбрасывавших по городу бомбы (было несколько взрывов). Следы остаются всюду: запись камер видеонаблюдения, отметки телефонов в сети связи о месте нахождения. А в случае с убийством Шеремета убийцы были чрезвычайно хорошо подготовлены. Преступники уклонялись от видеокамер, смотрели в разные стороны. Они вышли из подъезда и вернулись в тот же подъезд. Там, по версии следствия, в квартире Антоненко готовилось преступление.

**– Вы упоминали экспертизу. В одном из интервью адвокат подозреваемой Дугарь заявил, что экспертиза проводилась по методикам, не признанным в Украине.**

– Законодательство Украины не дает четких ограничений по использованию тех или иных методик. Экспертизу видеозаписи возможных убийц Шеремета проводил Украинский научно-исследовательский институт экспертиз, и у нас нет оснований ему не доверять.

**– Привлекались ли иностранные специалисты?**

– Да, привлекался специалист из Великобритании Айван Бирч, это специалист с мировым именем по анализу психофизиологических особенностей людей, в том числе походки. Есть ведь наука криминология, есть люди, которые ею занимаются и разбираются в отдельных ее направлениях. И мы обязаны раскрыть преступление, опираясь на ее достижения.

Напомню: наша задача состоит вовсе не в обвинении невиновных, а в том, чтобы найти виновных. Я общался с сотрудниками следственной группы. Они сами были в шоке. Как так: детский хирург, музыкант, девушка-медсестра – почему они совершили это убийство?! Изначально мы проверяли семейство Грищенко: шестикратно или семикратно судимый человек и сотрудница (надзирательница) исправительного учреждения. Если бы обвинили их, то у общества, скорее всего, не было бы никаких вопросов. Но эксперты однозначно говорят: нет, это не они. И мы искали тех, кто реально к этому преступлению причастен.

**– Часть украинского, а вместе с тем и белорусского общества смущает, что некоторые подозреваемые имели отношение к АТО (Антитеррористическая операция в Донбассе). В общественном сознании действует своеобразная сакрализация таких людей: почти святые, жертвуют собой ради Родины, патриоты…**

– Статистика говорит о другом. Очень часто бывшие участники АТО совершают преступления и правонарушения. Например, в Киеве в декабре прошлого года был убит трехлетний ребенок. Бизнесмен выходил из ресторана с женой и трехлетним сыном. Целью был бизнесмен, но пуля прошла мимо его головы и попала в ребенка, который скончался на месте. Убийцы были задержаны на следующий день. Ими оказались два молодых человека, бойцы одного из добровольческих батальонов; один был наводчиком, а другой – прекрасным снайпером. На допросе он объяснял, что собирался испугать бизнесмена: выстрелить так, чтобы пуля пролетела перед самым носом жертвы, когда тот сел в машину; он не знал, что там будет ребенок, и ему очень жаль. И снайпер он действительно хороший – был награжден орденом из рук президента Порошенко.

В любой стране мира после военных конфликтов (например, в Америке после войны во Вьетнаме) большое число ветеранов становятся нарушителями закона, убийцами и грабителями. Во-первых, из-за посттравматического стрессового расстройства у таких людей очень часто появляются психологические проблемы – сложности с адаптацией, склонность к агрессии и так далее. Во-вторых, они привыкли нарушать закон на войне и делают то же самое в мирное время. Профессия и биография не гарантируют, что человек не станет преступником. Чикатило, например, был преподавателем. Есть преступники среди священников и судей.

**– Насколько я понимаю, много вопросов вызывает мотивация: почему эти люди вдруг решили убить Шеремета.**

– По нашему мнению, этих людей использовали. Они были исполнителями чужой воли, а руководствовались патриотическими мотивами. Дугарь, подозреваемая в организации разведки, вообще могла не знать, зачем ее попросили пройтись по конкретному маршруту. Лицам же, подозреваемым в непосредственной установке бомбы, могли сказать, что Павел Шеремет – опасный человек и его ликвидация будет для Украины благом. Если вы мотивированы на исполнение чужих приказов, поставить бомбу не так уж и сложно. Я это знаю как человек, которого самого дважды хотели взорвать. Мало того, установка радиоуправляемой бомбы считается для преступников наименее опасной. Скажем, прямой огневой контакт (выстрел с короткого расстояния) сопряжен с невозможностью уйти. А преступник всегда думает о собственной безопасности.

**– Но это означает, что кто-то должен был прийти к ним и сказать: вот этого человека нужно взорвать.**

– Да, эти люди пока не установлены.

**– И нет никакой версии?**

– Версии есть, но не все из них мы готовы озвучивать. Дождемся, когда у нас будет подтверждение.

У нас по делу об убийстве Шеремета 200 томов. По нынешним подозреваемым – 38 томов. Прокурор выделил их в отдельное производство, и сейчас адвокаты подозреваемых с ними знакомятся. Оставшиеся 162 тома касаются различных версий. Главная версия была озвучена: цель – возбуждение общественно-политической ситуации в стране. Громкое убийство вполне могло бы привести к отставкам министра внутренних дел, генерального прокурора, к митингам против президента. В 2016 году могло бы реально привести к еще большей дестабилизации ситуации в стране. Вспомните, например, эффект от убийства Георгия Гонгадзе.

Кроме того, вспомните: буквально в тот же день в информационном пространстве начали разгонять информацию о причастности патриотической группы «Азов». Убийцы знали, что у Шеремета сложились хорошие отношения с руководством «Азова», что буквально в ночь накануне убийства он встречался во дворе с Билецким (главой «Азова») и «Боцманом» (одним из руководителей «Азова», бывшим гражданином Беларуси). Не исключено, что именно их объявили бы исполнителями, а заказчиков указали бы в руководстве Национальной полиции – писали ведь уже о якобы причастности заместителя главы полиции Трояна. Параллель напрашивалась бы сама собой: Гонгадзе убивали милиционеры, генерал Пукач, Шеремета – полицейские по приказу Трояна. И так далее – вплоть до Авакова и Порошенко. На самом же деле эта версия не выдержала и малейшей проверки: последний пост Шеремета на «Украинской правде» был в поддержку «Азова», а сам Павел собирал для «Азова» деньги.

**– Есть ли надежда на то, что в обозримом будущем дело передадут в суд для рассмотрения по существу?**

– 22 мая 38 томов дела мы передали для ознакомления адвокатам. Адвокаты скандалили, но суд ограничил время их ознакомления 18 августа. Мы надеемся, что этого времени им хватило. И мы надеемся, что суд будет открытым, с прямыми трансляциями, чтобы каждый мог убедиться в обоснованности доказательств. Первое заседание суда, по сути, назначено на 25 августа. И еще раз подчеркну: решение о виновности подозреваемых принимает не полиция и не общество, а суд!

АСОБА



# Хто такая медыятар Лілія Уласава, якая ўвайшла ў кіраўніцтва Каардынацыйнай рады?

*19 жніўня на пасяджэнні Каардынацыйнай рады быў абраны прэзідыум, калі казаць груба, то кіраўніцтва органа. У яго ўвайшлі былы міністр культуры **Павел Латушка**, юрыст **Максім Знак**, прадстаўніца штаба Бабарыкі **Марыя Калеснікава**, кіраўнік забастоўкі на МТЗ **Сяргей Дылеўскі**, нобелеўская лаўрэатка **Святлана Алексіевіч**, прадстаўніца аргкамітэта па стварэнні партыі БХД **Вольга Кавалькова**, а таксама медыятар **Лілія Уласава**.*

*Калі астатнія асобы вядомыя чытачам, то прозвішча Ліліі Уласавай зусім мала каму штосьці кажа. «Наша Ніва» пазнаёмілася з прадстаўніцай рады, а таксама задала ёй некалькі пытанняў.*

**– Раскажыце крыху пра сябе, а таксама пра тое, як вы апынуліся ў Каардынацыйнай радзе.**

– Я ў мінулым юрыст. Апошнія гадоў дзесяць займаюся медыяцыяй, я міжнародны медыятар. На сёння дапамагаю людзям вырашаць канфлікты – гэта мая прафесійная дзейнасць. Мне 67 гадоў. Я ніколі раней не займалася палітыкай, хаця заўжды мела грамадзянскую пазіцыю. У мяне ёсць шмат пытанняў да ўлад наконт таго, што яны рабілі ўсе гэтыя гады, шмат з чым я катэгарычна не згодна. Учора мяне вылучылі ў прэзідыум Каардынацыйнай рады. У нейкай ступені туды выпадкова трапіла, але цяпер падключаюся да працы, знаёмлюся з усім. Я думаю, што буду карысная.

**– Растлумачце для шырокага кола чытачоў, хто такі медыятар.**

– Нейтральны чалавек, які дапамагае ўрэгуляваць пытанні паміж канфліктуючымі бакамі. Ён не выносіць рашэнні, не крытыкуе, гэта прафесійны перамоўшчык, які дапамагае бакам вызначыць іх інтарэсы. Наладзіць дыялог, бо бакі, якія ў канфлікце, часта нават не размаўляюць паміж сабой.

А медыятар дае магчымасць людзям сесці адзін насупраць аднаго, паглядзець у вочы, пачаць дамаўляцца. Медыятар – гэта такі дырыжор падчас перамоў. Гаворка можа весціся не толькі пра людзей, якія, скажам, разводзяцца, але і пра юрыдычныя асобы, дзяржаўныя органы, грамадскія арганізацыі – пра ўсіх, у каго ёсць праблемы.

**– А хто вам прапанаваў увайсці ў Раду?**

– Вельмі шмат арганізацый прапаноўвалі мяне, я дастаткова вядомая ж у юрыдычных колах, шмат гадоў узначальвала грамадскую арганізацыю, што аб'ядноўвала юрыстаў, якія займаюцца гаспадарчымі справамі. Я фактычна з'яўляюся заснавальніцай медыяцыі ў Беларусі, у гэтых колах мяне таксама добра ведаюць. Напэўна, яны мяне і прапанавалі.

**– Што стала канчатковай такой пстрычкай, пасля якой вы пайшлі ў раду, сталі займацца палітыкай?**

– Я ў палітыцы толькі першыя крокі раблю. Усе гэтыя гады мая грамадзянская пазіцыя спела. Я заўжды сябе адчувала грамадзянінам і хацела рэалізоўваць правы сябе як грамадзяніна. Падзеі апошняга часу, мне здаецца, паднялі ўсіх людзей, бо галасуем за аднаго кандыдата, а атрымліваем зусім процілеглае. І гэтыя фальсіфікацыі абураюць не толькі мяне, але ўсю актыўную частку Беларусі.

**– Якія першыя ўражанні ад працы рады?**

– Вельмі добрыя. Распрацаваны тэкст рэзалюцыі. Трэба, каб грамадства разумела, што Каардынацыйная рада – гэта такі орган, які хоча наладзіць дыялог з уладамі, вырашыць праблемныя моманты: вызваліць палітвязняў, пачаць крымінальныя справы за збіццё мірных людзей і, канечне, прызначыць новыя выбары.

Сёння мы накіравалі вусныя і пісьмовыя запрашэнні кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта [Ігару Сергеенку], генеральнаму пракурору [Аляксандру Канюку], старшыні Следчага камітэта [Івану Наскевічу] і міністру ўнутраных справаў [Юрыю Караеву] аб сустрэчах у любы зручны час, каб пачаць дыялог.

Абуральна, калі па БТ гучыць ад ранку, што мы нейкія змоўшчыкі, што мы нейкія грошы атрымліваем – усё гэта хлусня і маніпуляцыя. Мы не хочам нічога мяняць у міжнародных дамовах, мы хочам працягваць супрацоўнічаць з усім светам, у тым ліку з Расіяй. Даходзіць да таго, што Каардынацыйную раду назвалі «чорнай сотняй» – гэта такі псіхалагічны прыём, калі вешаецца таўро, за якім не бачна людзей. А мы людзі, якія прадстаўляюць розныя пласты насельніцтва.

Цяпер стаіць пытанне пашырэння Каардынацыйнай рады, бо сотні жадаючых туды ўвайсці, асабліва прадстаўнікоў бізнесу.

**– Ці ёсць шанец, што атрымаецца наладзіць дыялог з уладамі?**

– Цяжка сказаць, яны ж лічаць, што гэта будзе праявай слабасці. У іх няма традыцыі перамоў. Яны ж могуць толькі казаць людзям, што трэба рабіць, а нічыё меркаванне іх не цікавіць. Самая важная праблема – у нас ніколі не чулі народ і не хочуць чуць.

Але ў тым асяродку шмат разумных людзей, якія разумеюць, што сілай нічога не зробіш. Ну пасадзяць яшчэ сто чалавек – і што далей? Гэта прывядзе толькі да новых выбухаў у грамадстве. Трэба дамаўляцца, можа, і не на самым высокім узроўні. Можа, будзе нейкая падтрымка па міжнароднай лініі.

**Гутарыў Зміцер ПАНКАВЕЦ.**
**На здымку: Лілія Уласава.**
Фота Медыяцыя Еўропа-Азія.

ВЕНА–МІНСК

# Канцлер Аўстрыі заклікаў да новых выбараў у Беларусі

## *Себасцьян Курц заявіў, што ў Беларусі неабходна правесці новыя – справядлівыя і свабодныя – выбары, перадае аўстрыйскае агенцтва друку АРА.*

*«Патрэбны новыя выбары, якія пройдуць свабодна і справядліва»*, – заявіў канцлер напярэдадні саміту ЕС па сітуацыі ў нашай краіне.

Ён адзначыў, што ў Беларусі неабходны дыялог паміж Аляксандрам Лукашэнкам і апазіцыяй.



СТОП-КАДР




**На минувшей неделе на ступенях Белгосфилармонии состоялась крупная музыкальная акция с участием около двухсот музыкантов из разных коллективов Минска.**
*Дарья Бурякина, TUT.BY*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Гэтыя зверствы толькі больш злуюць людзей…»

## Людміла КРУКОЎСКАЯ, бас-гітарыстка, кіраўнік праекта BlackWhiteJazz:

– Падчас гэтай выбарчай кампаніі я была назіральнікам на ўчастку ў Бараўлянскай СШ №3. Пайшла ў назіральнікі, бо, як і ўсе нармальныя людзі, хацела, каб выбары былі сумленныя. Трэба сказаць, што ўчасткі ў нашай школе, ды і па ўсім Бараўлянскім сельсавеце, правялі выбары годна: нават паводле афіцыйных пратаколаў большасць галасоў была аддадзена за Святлану Ціханоўскую, то-бок настаўнікі не займаліся фальсіфікацыямі. І я ганаруся, што абодва мае сыны вучацца менавіта ў гэтай школе, што там такі цудоўны педсастаў.

Абвяшчэння вынікаў галасавання на ўчастку мы чакалі да паловы першай ночы, а потым з сябрам яшчэ паехалі ў горад, бо ягоны сын хаваўся там па кустах ад АМАПа. Мы бачылі, колькі было параненых і пацярпелых, таму на наступны дзень сабралі бінты, перакіс, марлю, нейкія лекі і з думкай, што, калі спатрэбіцца, будзем аказваць людзям дапамогу, селі ў машыну і паехалі ў раён Грушаўкі – нам расказалі, што там сабралася многа народу. Але не даехалі – дарогі былі перакрыты, і мы спыніліся на пад'ездзе да Пушкінскай плошчы. Дапамагчы паспелі толькі аднаму чалавеку, перавязалі яго – ён быў паранены святлашумавой гранатай. Калі ўжо на Пушкінскай сілавікі пачалі выціскаць людзей з плошчы, мы прыпаркаваліся ў ціхім двары і проста сядзелі ў аўтамабілі, каб перачакаць вострую сітуацыю.

Нас забралі проста з машыны, мяне і майго сябра, – разбілі шкло і выцягнулі. Мы з ім апынуліся ў розных аўтазаках. Затрыманых з майго аўтазака павезлі ў Фрунзенскі РУУС. Мужчын збівалі. З жанчын, канешне, таксама здзекаваліся, але дубінкамі не білі – па меншай меры тых, хто маўчаў і не абураўся ўголас, не патрабаваў захавання нейкіх правоў. Але абурацца было бессэнсоўна, бо там ты знаходзішся ў логаве раз'юшаных, нават нейкіх шалёных, быццам замбіраваных узброеных людзей. Хаця – у мяне не было адчування, што нават людзей. Мы, жанчыны, разам з мужчынамі спачатку на працягу шасці гадзін ляжалі тварам уніз, потым столькі ж часу стаялі на каленях галавой уніз – гэта ўсё адбывалася ў Фрунзенскім РУУС. У выніку гадзін праз 12–13 здзекаў і прыніжэнняў (у мяне яшчэ няма сіл расказваць пра ўсё падрабязна) нас пагрузілі ў аўтазакі і павезлі ў Жодзіна. Мужчын у аўтазаках працягвалі збіваць, прычым білі страшэнна.

Жодзінская турма, як я чула, лічыцца адной з самых суровых. Дык вось для мяне гэта быў проста як санаторый ці курорт у параўнанні са знаходжаннем ў РУУС і аўтазаку з АМАПам. У Жодзіне былі звычайныя ахоўнікі, якія нармальна з намі размаўлялі – яны размаўлялі з намі як з людзьмі! Супрацоўнікі турмы былі запараныя, бо да іх прывозілі па 700–800 чалавек у дзень, а турма не была падрыхтавана да такой колькасці. Натуральна, камеры былі перапоўнены ў 2–3 разы. І, скажу па шчырасці, ахоўнікі самі былі злыя на міліцыю, на АМАП, нават асабіста мне казалі вельмі недвухсэнсоўнымі словамі, што пра іх думаюць.

Мяне выпусцілі ў ноч на 14 жніўня, з чацвярга на пятніцу, – а забралі ў ноч на аўторак. У мяне не было ніякіх судоў, бо такую колькасць затрыманых проста не паспявалі "апрацаваць". Суддзі прыязджалі з Мінска – каго паспелі, таго паспелі. Скончыліся мае 72 гадзіны ўтрымання без прад'яўлення абвінавачання, і я выйшла за сцены турмы. Што далей – не ведаю. Па-мойму, будзе яшчэ позва ў суд – калі ўлада не зменіцца, мне могуць прысудзіць і суткі, і штраф. Што прад'яўяць – не ведаю. Сядзела ў машыне ў двары?

Калі я выйшла з турмы, то ў валанцёрскіх спісах адшукала прозвішча майго сябра – я баялася, што ён будзе ў бальніцы, бо, калі нас забіралі, АМАП лютаваў. Але сябар аказаўся таксама ў гэтай турме. Яго адпусцілі раніцай. Ля турмы было многа валанцёраў, дзякуй ім вялікі: калі нас ноччу выпускалі, мы ж увогуле не ведалі, як будзем дабірацца да Мінска. А нас сустрэлі – кава, чай, пледы, пазваніць, пераначаваць, адвезці дадому. Вельмі моцна дапамаглі.

Мяне не пакалечылі, не зрабілі інвалідам, але псіхалагічнае аднаўленне будзе вельмі складаным. Упэўнена, я не змагу ўсё забыць, гэта застанецца са мной на ўсё жыццё. Такія рэчы забыць немагчыма. Я дагэтуль бачу твар таго чалавека, які забіраў нас з аўтамабіля, па начах бачу турму і сцены РУУС разам з усім тым, што там было. Я патрохі сябрам расказваю, але не магу яшчэ спакойна гэта рабіць – мне робіцца млосна, калі пачынаю гаварыць, я страчваю прытомнасць. Магчыма, з цягам часу здолею…

Ці гатова я зноў выйсці на вуліцы? Калі яны думаюць, што ўсіх запужалі, то моцна памыляюцца. Паглядзіце – гэтыя зверствы толькі больш злуюць людзей, трэба ісці да канца. Таму што такія людзі… не, гэта не людзі – падобныя злачынствы абавязкова павінны быць пакараны паводле закона!

**Фота Ганны ШАМКО.**



НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# «Мне яшчэ пашчасціла»

## Марта-Дарыя КЛІНАВА, рэжысёр-дакументаліст:

– Затрымалі мяне 8 жніўня каля выбарчага ўчастка, дзе я была назіральніцай. Пасля абеду я сышла паразмаўляць са знаёмымі: з польскім журналістам і перакладчыцай. І адмыслова адышла падалей ад школы, каб не прыцягваць увагу. Але каля крамы "Суседзі" на нас напалі мужчыны ў цывільным. Схапілі адразу майго сябра-паляка – ён увогуле не разумеў, што адбываецца, хто гэтыя людзі, – а потым ужо нас, дзяўчат. Забралі тэлефоны, пацягнулі ў машыну. Па дарозе мы спрабавалі задаваць пытанні, але ніхто нічога не казаў. Прывезлі ў Кастрычніцкі РУУС. Там таксама нічога не праяснілася. "Мы проста хочам з вамі паразмаўляць", – ўсё. Калі праз паўгадзіны даставілі і іншых назіральнікаў, сітуацыя стала больш зразумелай.



У РУУС мы сядзелі да гадзіны ночы (пры тым што затрымалі нас недзе ў 16.40). Прыходзілі розныя супрацоўнікі, пыталіся, сыходзілі, нарэшце афармілі. Калі мы пабачылі пратаколы, у абвінавачваннях было хуліганства, размахванне рукамі і супраціў работнікам міліцыі. Адзін з міліцыянераў тым не менш нас супакойваў: "Не хвалюйцеся, патрымаюць да панядзелка і адпусцяць". Мне дазволілі патэлефанаваць маці.

У РУУС нас было сем чалавек, і мы, у прынцыпе, не адчувалі пагрозы: сядзелі, жартавалі, спакойна размаўлялі з участковым, лічылі, што мы тут ненадоўга. Тым больш што майго сябра-паляка адпусцілі.

Настрой пачаў падаць, калі высветлілася, што нас павязуць на Акрэсціна і суд адбудзецца толькі ў панядзелак. "Там ўсё будзе", – адказалі нам на просьбы прыняць перадачы. Па выніку апынулася, што ў камеры былі толькі брудныя матрацы, і першыя суткі нас не кармілі, потым ежу нам падвезлі. Але тое яшчэ кветачкі…

Я сказала бы, што за час майго затрымання я здзейсніла сапраўднае турнэ: Акрэсціна – ІЧУ Мінскага раёна – Акрэсціна – Жодзіна… У ІЧУ Мінскага раёна нас перавезлі на наступныя суткі. Там было больш-менш нармальна: кармілі, выводзілі на прагулку. Маладым курсантам, якія там працавалі, было хутчэй цікава, што адбываецца, і жорсткасці не было.

У панядзелак быў суд. Мы прыехалі на яго ўсё яшчэ расслабленыя, бо меркавалі, што нам дадуць штраф. Аднак мне і яшчэ адной назіральніцы, дзяўчынцы 19 гадоў, "уляпілі" па 15 сутак.

Зноў Акрэсціна. Цяпер у чатырохмясцовай камеры сядзели 25 чалавек. Калі мы былі там першы раз, то запомнілі ахоўніка, які ўвесь час крычаў і прыніжаў людзей, – мы яго празвалі "Гестапа". Ён і дзяжурыў, калі нас прывялі пасля суда. "Гестапа" прыйшоў і сказаў рыхтавацца да ўшчыльнення, і да нас у камеру размясцілі яшчэ 25 чалавек – у выніку атрымалася 50. Там не тое што прысесці – стаяць было немагчыма. Потым 15 чалавек забралі. 35 жанчын у камеры ноч праводзілі хто дзе: хто на лаве, хто пад ложкам, хто на стале, а хто – на сваёй сукамерніцы. Некаторыя не елі ўжо доўгі час і нават гублялі прытомнасць: я падзялілася з імі ежай, якую мне ўдалося пранесці. Жанчыне з дыябетам стала кепска, і ёй проста прынеслі хлеба, а пра лекі нават не ішла гаворка.

Разам з маёй калегай-назіральніцай я спала пад ложкам. Кожную гадзіну мы прачыналіся, бо чулі крыкі "Гестапа" на людзей, чулі, як у двары збівалі хлопцаў, іх стогны, як хтосьці з іх клікаў маму. Мы тады "парадаваліся", што дзяўчынкі, але, як потым высветлілася, праз пэўны час і дзяўчынак перасталі шкадаваць.

Наступны дзень – ізноў паездка. Тых, у каго ўжо адбыўся суд, перавезлі ў Жодзіна. Перад дарогай нас вывелі ў двор, і мы бачылі хлопцаў, якія сядзелі на каленях тварам у зямлю. У аднаго хлопца была зламана нага, але амапаўцы з яго толькі смяяліся.

У Жодзіне ў параўнанні з Акрэсціна ўмовы былі цярпімыя. У камеры на 10 месцаў – 15 чалавек. Там была ежа, можна было паспаць нармальна, і мы жартавалі, што "патрапілі ў санаторый". У многіх дзяўчат з-за перанесенага стрэсу не ў час пачаліся месячныя, а гігіенічных сродкаў у турме не прадугледжана, і гэта было цяжка.

Вельмі бянтэжыла і працэдура дагляду менавіта адміністрацыйных правапарушальнікаў: нас распраналі дагала і прымушалі прысядаць. Гэта адбывалася і ў жодзінскай турме, і ў ІЧУ, і на Акрэсціна – прычым на Акрэсціна нас яшчэ здымала камера!!! Што гэта за правілы такія?!

Мяне адпусцілі нечакана, на сёмыя суткі з часу затрымання: выклікалі да следчага і прапанавалі падпісаць паперу, што, маўляў, раскайваюся і абяцаю не здзяйсняць адміністрацыйных правапарушэнняў. На мне яшчэ заставалася "вісець" 8 сутак, але я падумала, што спачатку трэба адтуль выйсці, а потым з гэтым усім разбірацца.

Ужо на свабодзе жахнулася, калі даведалася, што пасля нашага пераезду ў Жодзіна тых дзяўчат на Акрэсціна, з якімі мы сядзелі, пачалі збіваць. Так што мне яшчэ пашчасціла.

Тое, што рабілі з людзьмі на Акрэсціна, – злачынствы. Мяне не пакідае адчуванне таго, што ўсе мы там былі як закладнікі. Бо ў затрыманых людзей ўсё ж ёсць правы, а ў нас не было ніякіх правоў.

**Занатавала Дар'я АМЯЛЬКОВІЧ.**

НА ЎЛАСНЫМ ВОПЫЦЕ

## Піліп ЧМЫР, лідар групы Drum Ecstasy:

# «Я ўвесь час патрабаваў»

-- Мяне затрымалі 10 жніўня, калі я ішоў з сям'ёй, з дзіцем па праспекце Незалежнасці, – у 18.09. Ля цырка стаялі амапаўцы, я дастаў тэлефон, каб зрабіць здымак цырка – прыгожыя кадры. І тут на мяне наляцелі нейкія ненармальныя, узбуджаныя, мяркую, пад уздзеяннем наркотыкаў людзі, схапілі і пацягнулі ў аўтобус.

Там было ўжо восем чалавек. Пра ніякія маскі гаворкі не ішло. А я толькі пару дзён як прыляцеў з Нью-Ёрка, быў на каранціне і нават ў горадзе заўсёды хадзіў у масцы. Але ніхто пра небяспеку заразіцца каранавірусам не захацеў і слухаць, тыя, хто мяне затрымаў, былі цалкам неадэкватныя людзі.

Падчас затрымання мяне моцна не кранулі – я падкрэсліў, што не супраціўляюся. Але астатнім дасталася. Прычым людзей затрымлівалі абсалютна мірных, тых, што ішлі па сваіх справах. Напрыклад, разам са мной у аўтобусе апынуліся рабочыя, якія выйшлі недзе пасядзець, хлопец, які выйшаў за цыгарэтамі, мужчына 75 гадоў, які ішоў за прадуктамі… Некаторыя людзі пыталіся, ці можна ім прайсці да метро, – ім дазвалялі, а потым хапалі. Кагосьці моцна збівалі, пагражалі, што зараз, маўляў, у цябе знойдзем наркотыкі, чаго ты тут за хлебам ходзіш і г.д.



Потым прыехаў аўтазак для перавозкі зняволеных. У яго нельга было патрапіць, не атрымаўшы пяць udараў дубінкай па спіне. Гэтаксама б'юць па галаве, калі не згінаешся ў машыне. У ячэйку, дзе павінна знаходзіцца два чалавекі, нас запіхалі семярых – дыхаць было няма чым. Потым загрузілі дзяўчат – дзяўчаты пачалі крычаць, і ў іх гонар уключылі вентыляцыю і святло.

Прывезлі ў Савецкі РУУС (пра тое, што гэта быў ён, я даведаўся потым). Нас усіх выгналі з варанка пад мацюкі і ўдары канваіраў. Я падняў руку, што не трэба мяне біць, і за гэта атрымаў яшчэ больш – два амапаўцы білі па печані і нырках. Потым у дворыку нас усіх паставілі да сценкі, рукі за спінай. Было нас недзе 60 чалавек. На мяне хацелі апрануць кайданкі, але ў мяне праблема са спінай, і кайданкі не сыходзіліся – я пра гэта папярэдзіў, – апранулі хамуты. Хачу зазначыць, што той ахоўнік, які гэта рабіў, не лютаваў. Потым мне парэзалі шнуркі нажніцамі, дасталі ўсё з кішэняў. Я стаяў галавой у забор, шырока расставіўшы ногі, і перыядычна атрымліваў па нагах дубінкай.

Далей нас перагналі ў іншую частку двара. Мы павінны былі ісці, моцна нахіліўшыся ўперад, практычна на 90 градусаў, з рукамі за спінай. У такім стане мы прастаялі да першай гадзіны ночы. Позу дазвалялася мяняць толькі па камандзе: ці рукі за галавой, ці рукі за спінай. Калі не дай бог выпроставешся, б'юць дубінкай. А размаўляюць там толькі матам.

Потым па адным пачалі выводзіць падпісваць пратакол. Тэкст тыпавы: прыкладна ў 19.30 па праспекце Незалежнасці, 47 ці 48 удзельнічаў у несанкцыянавым мітынгу і выкрыкваў лозунгі. Я адмовіўся яго падпісваць. Мне сказалі: "Тады будзеш сядзець тут 72 гадзіны".

Хачу зазначыць, што некаторыя з хлопцаў, якія працуюць у РУУС, надта не зверствавалі, я сказаў бы, "выконвалі сваю функцыю", з імі можна было размаўляць. Але нейкія іншыя мелі выгляд людзей цалкам неадэкватных: крычалі, бегалі, паміж імі здараліся канфлікты.

Потым на гэтым жа двары нас размясцілі на начлег – дазволілі сесці на зямлю. Калі ўжо выбіраць, мне з маёй спінай прасцей было стаяць. Выводзілі ў туалет па адным.

Увесь час знаходжання ў РУУС я патрабаваў, каб звязаліся з маёй сям'ёй і паведамілі ёй, дзе я знаходжуся, каб да мяне звярталіся на "вы"… увогуле, я многа гаварыў. І пэўнай рэакцыі дамогся: адзін непрыемны чалавек перастаў да нас прыходзіць, хоць я за гэта і атрымаў. Гэта важна. Я трымаў увесь час дыстанцыю, не дазваляў мацюкоў у адказ і паўтараў: вы перавышаеце паўнамоцтвы пры вялікай колькасці сведак. Гэты навык – вынік майго наведвання курсаў па бяспецы, і ён мне вельмі дапамог. Дзесьці а другой гадзіне ночы да мяне прыйшлі – мяне вызвалілі па лініі, якую я не хацеў бы называць.

Усё, што адбывалася са мной і затрыманымі людзьмі ў засценках, я класіфікую як самаўпраўства і катаванні. Гэта карная аперацыя для запалохвання насельніцтва.

Мяне адпусцілі, і, прызнацца, мне было крыху няёмка з-за таго, што я пакідаю тых хлопцаў, якія былі там разам са мной.

**Занатавала Дар'я АМЯЛЬКОВІЧ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

***Ведаем, многім прыхільнікам «Народнай Волі» неабходна прадоўжыць падпіску на верасень і на наступныя месяцы.***

***Зрабіце гэта, калі ласка, да 28 жніўня. Не спазніцеся!***

Народная Воля http://www.nv-online.info
25 ЖНІЎНЯ 2020 г.

ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ

Анатоль БУТЭВІЧ

# І МАЛАДОСЦЬ ВЕДАЛА, І СТАРАСЦЬ МАГЛА

*(Працяг. Пачатак у №№63,65.)*

Незвычайная, проста выключная нагода сабрала насельнікаў Друцкага замка ў пакоі ягонага гаспадара. Да князя Сямёна Друцкага нечакана завіталі найвысокія госці, якіх у звыклым жыцці побач з сабою і ўявіць цяжка. Сам кароль польскі Уладзіслаў Ягайла і вялікі князь літоўскі гаспадар Княства Вітаўт Вялікі. Заехалі нібыта пагасцяваць. Дзіўна, як быццам загадзя ведалі, які тут будзе пачастунак. Ды не промах князь Сямён, заўважыў, як часта кідае позіркі ў бок ягонай пляменніцы Соф'і Гальшанскай высокі госць з польскай сталіцы.

"Відаць, запарушыла вока старому каралю маладзенькая князёўна", – падумаў князь Сямён.

І не памыліўся. Праз нейкі час яго зноў адведаў вялікалітоўскі гаспадар. Але не проста ў госці прыехаў Вітаўт, у якасці свата завітаў. Ад імя караля польскага звярнуўся да князя з просьбай аддаць за Ягайлу Соф'ю, пляменніцу Сямёнаву. Чацвёртай каралеўскай жонкай стане. Здзівіўся князь: няўжо не хапае годных нявест у шматлюдным Кракаве альбо ў яго ваколіцах? Гэта ж дзе Кракаў, а дзе Друцк з Гальшанамі. Ды і па колькасці нявест іх цяжка нават параўнаць. Аднак услых Сямён пакорліва-цвёрда прамовіў:

– Хіба ж забыўся, высокі княжа, што на нашых з вамі землях існуе правіла абароны дзявочай годнасці? Спрадвечны тутэйшы звычай патрабуе аддаваць замуж спярша старэйшую сястру. Не рабіце ганьбы Васілісе. Хай яна стане жонкай караля.

Вітаўт перадаў прапанову Ягайлу. Ды не згадзіўся той, відаць, спрацавала традыцыя людзей па імені Уладзіслаў – не адступацца ад свайго. Так проста і сказаў свайму свату:

– Васіліса мо і мудрэйшая, але хай дастанецца яна маладзейшаму. Ты, княжа, бачыш, што Васіліса – князёўна з вусам. Людзі кажуць, што гэта вельмі ж гарачыя кабеты. А ты ведаеш, мне ўжо сем дзясяткаў. Тры жонкі перажыў. Ці спраўлюся з жончынай жарсцю? Хай будзе маёй спадарожніцай Соф'я…

Ведаў Ягайла, што Соф'я даводзіцца пляменніцай Вітаўтавай жонцы Улляне з роду Гальшанскіх. Мо і які-небудзь свой разлік на гэта меў. Пераказаў Вітаўт Ягайлава меркаванне. Не пасмеў супраціўляцца друцкі князь, за справу ўзяўся, не марудзячы. У тым жа 1422 годзе знайшлі Васілісе іншага дастойнага мужа. Ім аказаўся Ягайлаў пляменнік з роду Гедымінавічаў князь Іван Бельскі. На той час быў першым князем бельскім, меў у валоданні горад Белая, што на Смаленшчыне, перададзены яму ва ўдзел Вітаўтам. Пазней стаў князем наўгародскім.

У выніку такой ракіроўкі 17-гадовай Соф'і Гальшанскай адкрылася дарога ў еўрапейскую супольнасць – на найвышэйшы пасад у Рэчы Паспалітай. І даўні звычай захаваў князь Друцкі, і караля польскага не пакрыўдзіў. Пра гэткі шлях нават не сніла юная князёўна, лёсам якой разам з ёйнай маці Аляксандрай з княжага роду Друцкіх акурат у гэты час апекаваўся родны брат Аляксандры Сямён. Бо менавіта ў яго знаходзілася зараз аўдавелая сястра разам са сваімі дочкамі Васілісай, Соф'яй і Марыяй – іхні бацька Андрэй Гальшанскі каля 10 гадоў як памёр.

Хутка і бурліва заціраваў шлюбны кацёл. Ды так, што розгалас кіпення разышоўся не толькі па Вялікім Княстве Літоўскім, а і па ўсім Каралеўстве Польскім. Асабліва ўедлівая польская шляхта ледзь не абвінавачвала караля ў здрадзе (згадайце лёс іншага караля – мужа Барбары Радзівіл Жыгімонта II): вунь што выдумаў нядаўні язычнік, якога з Крэва запрасілі на каралеўскі пасад! Мала таго, што выбраў нявесту не з польскага асяроддзя, дык нават шлюбавацца не захацеў у польскай сталіцы. На свае вялікалітоўскія землі пацягнула. Ды калі? Самай зімой, у самы люты месяц года. Гэта ж амаль 700 кіламетраў трэба "мясіць" каралеўскаму аршаку глыбокі снег



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

ад Кракава да Новагародка. Асабліва гаваркія праціўнікі не баяліся дадаваць: бач, у першую сталіцу княства захацелася, жонку са сваёй зямлі бярэ, мала, што ў сваім атачэнні вялікалітоўскіх служак мае, дык і Сонка – так трошкі здзекліва сталі называць новую каралеўскую абранніцу – сваіх паслухмянцаў прывязе. Нагаспадарыць яны тут, гэтыя нядаўнія паганцы.

Не памыліліся незычліўцы. Соф'я прывезла з сабой сваіх, патрэбных ёй, людзей. У яе двары нямала было музыкаў, бо яна сама, як і Ягайла, вельмі ж любіла музыку. Некаторыя з вялікалітоўцаў і ў Кракаўскім каралеўскім замку заставаліся праваслаўнымі, аб чым сведчыць просьба Соф'і да Папы Рымскага, каб дазволіў ім браць удзел у імшы каталіцкай.

Нязгода была моцная, нават у Кракаве. Але адкрыта супраціўляцца каралю нязгоднікі пакуль што не пасмелі. Запомнім гэтае "пакуль што".

Ягайла ж рашуча праяўляў сваю настойлівасць, як пазней і Жыгімонт, не звяртаў увагі на чужыя галасы, сабе жонку выбірае, трохразовы вопыт уласнага шлюбавання многаму навучыў. Нездарма, відаць, пры хрышчэнні на католіка ўзяў імя Уладзіслаў, што азначае валадар, уладар славы. Тым больш што рашучасць кароль выяўляў не так ужо і рэдка.

Пасля смерці трэцяй жонкі Эльжбеты Граноўскай, якую Ягайла вельмі моцна кахаў, каралю настойліва прапанавалі ажаніцца з Офкай (Соф'яй) Баварскай, удавой пасля чэшскага караля Вацлава IV. Нават не спыталіся ў караля, не пацікавіліся ягоным меркаваннем. Дзіўна атрымліваецца: кароль выбірае жонку сабе, а шляхта ўсяляк супраціўляецца, носам круціць. Гэта яшчэ больш узвіравала непакорлівага Уладзіслава: дык кароль ён ці не кароль? Так было і на гэты раз. Угаворвалі Ягайлу, ліслівілі, абяцалі ўсялякія спрыянні і вялікі пасаг, абы толькі згадзіўся. Ды не маладзён кароль, каб не мець свайго розуму, каб слепа ісці за меркаваннямі шляхты, якую цікавіла найперш уласная выгада.

Звернем увагу, як імя "Соф'я" не абмінала Ягайлу. Першым шлюбам хацеў пабрацца з дачкой Дзмітрыя Данскога Соф'яй. На чацвёртую спадарожніцу жыцця прапанавалі Соф'ю-Офку. Ён жа і выбраў Соф'ю, толькі князёўну Гальшанскую. Дык мо заўсёды памятаў, што Соф'я-Сафія азначае прамудрасць?

І вось снежным зімовым днём 24 лютага 1422 года, акурат на запусты, у былым першым вялікалітоўскім стальцы Новагародку адбывалася пышная ўрачыстасць. Высокія госці прыехалі з самога Кракава, з Вільні. Выхаванец вялікалітоўскай зямлі і нядаўні гаспадар Крэўскага замка, а цяпер 70-гадовы кароль польскі і найвышэйшы князь літоўскі Уладзіслаў Ягайла шлюбаваўся чацвёрты раз – з маладзенькай 17-гадовай князёўнай Соф'яй з роду Гальшанскіх. У календары католікаў Рэчы Паспалітай Запусты (або Запускі) – традыцыйная назва апошніх дзён перад Вялікім постам. Запусты адбываліся за тры дні да посту, а ў 1422 годзе каталіцкі Вялікдзень прыпадаў на 12 красавіка.

Гэта ў поўнай меры быў шлюб, заснаваны на выбары самога караля, хоць наўрад ці можна казаць пра шчырае і моцнае ўзаемнае каханне. Пра той урачысты момант і сёння нагадвае памятная дошка ў Фары Вітаўта – так называюць касцёл у Навагрудку: "*У гэтай святыні ў 1422 годзе Уладзіслаў Ягайла, кароль польскі і вялікі князь літоўскі, браў шлюб з Соф'яй, княжной гальшанскай, будучай маткай каралёў польскіх Уладзіслава Варненьчыка і Казіміра Ягелончыка. Кароль Казімір Ягелончык быў бацькам Св. Казіміра і каралёў польскіх Яна Ольбрахта, Аляксандра, Жыгімонта I, а таксама Уладзіслава, караля венгерскага і чэшскага, і Фрыдэрыка, кардынала касцёла рымскага, прымаса Польшчы, дзедам Жыгімонта Аўгуста, апошняга з дынастыі Ягелонаў, якія на вышэйшую ступень магутнасці і славы ўзнеслі Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае*".

Даследчыкі да гэтага часу спрачаюцца: чаму шлюб адбываўся так далёка ад Кракава, ды яшчэ зімой, калі ехаць да няблізкага беларускага горада і снежна, і холадна, і складана? А мо адказ просты: Ягайла ніколі не здраджваў той зямлі, якая паставіла яго на высокае каралеўскае крыло. Таму, як мог, спрыяў ёй, аддзячваў. А ў гэтым выпадку быў і яшчэ адзін надзвычай важны для яго інтарэс. Кароль ужо не маладзён, але дагэтуль не мае каму згодна з традыцыяй перадаць уладу. Таму спадзяваўся на спрыянне лёсу, разлічваў, што як толькі пашлюбуецца на сваёй роднай зямлі, злітуецца Бог, народзяцца спадчыннікі ўлады, бо тры ранейшыя жонкі, якія паміралі дачасна, не пакінулі сыночкаў. А перадаваць пасад у чужыя рукі не ў характары Ягайлы.

У якасці адступлення варта прыгадаць адну незвычайную сітуацыю. Другой жонкай Ягайлы ў 1402 годзе стала Ганна Цылейская (Цэльская) – унучка па кудзелі караля польскага Казіміра Вялікага і ягонай другой жонкі гесанскай княгіні Адэльгейды (першай жонкай Казіміра была дачка вялікага князя літоўскага Гедыміна Альдона). А трэцюю Ягайлаву жонку дачку сандамірскага ваяводы Эльжбету Пілецкую з Граноўскіх набліжаныя да манарха прадстаўнікі ўлады і шляхта лічылі ледзь не ведзьмай, казалі, што яна прычаравала караля. Асабліва ўедлівыя назвалі гэты шлюб жаніцьбай "арла са свіннёй". І яшчэ адна цікавостка. Калі звярнуць увагу на сямейныя лёсы Ягайлавых жонак, то ўсе чатыры на момант шлюбавання з каралём былі безбацькавічанкамі.

Вось так – хіба ж не легенда, калі ў рэальным жыцці так неверагодна пераплятаюцца лёсы і падзеі, якія ніхто знарок, каб і хацеў, не здолеў бы падтасаваць?

А для Соф'і каралеўскае жыццё не было нават марай. Бо і думкі не магла дапусціць насельніца Гальшанскага замка (не, не таго, руіны якога сёння наўзбоч Гальшан, а колішняга, даўнейшага, драўлянага, які за два з гакам кіламетры перад паселішчам, калі ехаць з Крэва), што можа стаць каралевай. Другой пасля Гедымінавай Альдоны польскай каралевай паходжаннем з тутэйшай зямлі. Нават гульнямі такімі не забаўляліся сёстры. І раптам…

Аказваецца, жыццё бывае больш багатым і шчодрым, чым самыя нязвыклыя спадзяванні. Так і стала гальшанская князёўна гаспадыняй не адно кракаўскага Вавельскага замка, а і ўсіх польскіх і вялікалітоўскіх земляў, бо Ягайла да канца сваіх дзён заставаўся найвышэйшым князем літоўскім, хоць рэальным гаспадаром ВКЛ быў Вітаўт Вялікі.

Што праўда, род Гальшанскіх далёка не апошні ў Вялікім Княстве Літоўскім. Прадстаўнікі роду Іван Альгімунтавіч, Міхаіл Іванавіч Гальшанскія, бацька Соф'і Андрэй Іванавіч Гальшанскі былі наместнікамі вялікага князя літоўскага Вітаўта Вялікага ў Кіеве, з'яўляліся гаспадарамі ўдзельнага Кіеўскага княства.

Аднак вышэйзгаданае "пакуль што" не адступалася ад Соф'і. Не вельмі прыхільна сустрэлі яе польскія высокапасаднікі. Чацвёртая жонка караля больш як у чатыры разы маладзейшая за ўзбагачанага жыццёвым і дзяржаўным вопытам Ягайлу. Не захацелі адразу прызнаваць Сонку паўнаўладнай гаспадыняй, не ўганаравалі каронай каралевы (зноў згадайце лёс Барбары Радзівіл). Мо баяліся, што не надта будзе апекавацца Каралеўствам Польскім, а мо замінала нешта іншае. Толькі праз два гады пасля шлюбу скончыўся для Соф'і своеасаблівы выпрабавальны тэрмін. Прызнанне заслужыла сваімі справамі на карысць новай для яе краіны. 5 сакавіка 1424 года Соф'ю нарэшце каранавалі. Вялікая ўрачыстасць адбывалася ў кракаўскай катэдры. Цэлы тыдзень бавіліся госці рознымі забавамі, турнірамі ды начнымі танцамі. А перад гэтым Соф'ін муж і кароль польскі Ягайла спецыяльна паехаў у свае родныя вялікалітоўскія бары на паляванне, каб назапасіць дзічыны для ўдзельнікаў такой вялікай урачыстасці. І стала Соф'я законнай каралевай польскай, хоць і па мужы.

А вясельныя ўрачыстасці Ягайлы і Соф'і былі самымі пышнымі і працяглымі – ажно цэлы тыдзень весяліліся Вавель і Кракаў. Памыліліся незычліўцы ў сваіх апасеннях. Соф'я ненавязліва, тактоўна, але ўсё больш настойліва далучалася да дзяржаўных клопатаў. Нямала карыснага зрабіла для Кароны. Сярод іншых добрых спраў значыцца першы пераклад па яе ініцыятыве ў 1453 годзе на польскую мову Бібліі, вядомы сёння як Біблія каралевы Соф'і. Яна, каралева Соф'я, пераняла ад першай Ягайлавай жонкі Ядвігі традыцыю апекавацца Кракаўскай акадэміяй, якая сёння называецца Ягелонскім універсітэтам, праз усё жыццё дапамагала ёй фінансава.

Але не забывалася прадстаўніца роду Гальшанскіх і пра сваё вялікалітоўскае і праваслаўнае паходжанне. Дарэчы, на яе асабістай пячатцы было два гербы: Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага, якія ўгары падтрымліваў анёл. Менавіта з яе ініцыятывы і са згоды мужа ў 1431 годзе пачалося будаўніцтва ў Вавельскім кафедральным касцёле, дзе хрысціліся, каранаваліся і знаходзілі спачын найвышэйшыя польскія асобы, капліцы Святой Троіцы з візантыйскімі (рускімі) фрэскамі на сценах, якія, праўда, праз шматлікія перабудовы і рэстаўрацыі касцёла да нашых дзён не захаваліся. Для сябе будавала. Тут жа, згодна з праваслаўнай традыцыяй, каля заходняй сцяны Соф'я і была пахавана пасля смерці 21 верасня 1461 года. Сярод малебнаў, якія адбываліся там, быў і абавязковы малебен за душы Уладзіслава Ягайлы, Соф'і Гальшанскай і Вітаўта. Каралева перажыла мужа на 27 гадоў. Капліца ж дзейнічае і сёння.

Пазней прыклад маці паўтарыў, узвёўшы такую ж капліцу з супрацьлеглага боку ў тым жа касцёле, іхні трэці сын Казімір – вялікі князь літоўскі з 1440-га і кароль польскі з 1447 года. Дарэчы, праваслаўныя матывы і абразы ў часы Ягайлы меліся ў Гнезненскім кафедральным касцёле, у касцёле на Лысай Гары, у Люблінскай замкавай капліцы (захавалася да нашага часу), цалкам распісанай у візантыйскім стылі па загадзе Ягайлы, не выключана, што майстрам з беларускай зямлі, у касцёлах у Сандаміры і Вісліцы, нават у спальні караля ў Вавельскім замку.

Не марыла некалі Соф'я і наконт іншага, што выпала на яе лёс. Менавіта яна, народжаная на беларускай сённяшняй зямлі, разам з таксама тутэйшым мужам Ягайлам стала пачынальніцай знанай на ўсе еўрапейскія прасторы каралеўскай Ягелонскай дынастыі. У самым чароўным сне не высніла б такога. А тут на табе – самая сапраўдная рэальнасць.

Ды не ўсё гладка было ў жыцці каралевы Соф'і. Мо тое "пакуль што", тая першая незычлівасць і непрыхільнасць да яе не зніклі з часам. Так ці інакш, але нечакана на Соф'ю, на Ягайлу і на ўвесь высокі каралеўскі пасад абрынулася вялікая бяда. Абвінавацілі каралеву ў нявернасці мужу. Маўляў, Ягайла рэдка бывае ў Вавелі, усё па сваіх каралеўскіх ды паляўнічых справах ездзіць, салаўёў слухае ў вялікалітоўскіх барах, не бярэ з сабой жонку. А ў Вавельскім палацы шмат маладых рыцараў застаецца. Не заўсёды ж яны на полі бітвы прападаюць, вось і трэба нечым займацца ў мірны час. Некаторыя асабліва часта ў ложніцу (спальню) каралевы надведваюцца. І невядома яшчэ, хто з'яўляецца сапраўдным бацькам першынца каралеўскага Уладзіслава.

А тут зноўку зацяжарала Соф'я. Чорнымі крумкачамі пачалі круціцца плёткі. Кажуць, падграваў іх і Вітаўт, Соф'ін сваяк і Ягайлаў сват, акрамя таго – стрыечны брат Ягайлы: справы палітычныя часам куды важней за сваяцкія повязі. Узбунтаваўся Ягайла, які вельмі балюча ўспрымаў несправядлівасць, дбаў пра свой уласны гонар. На маладую жонку крыўду абрынуў. Ніякіх апраўданняў не слухае. Не бярэ пад увагу нават тое, што іхні Уладзіслаў як дзве кроплі вады на бацьку свайго, Ягайлу, значыцца, падобны. Ледзь даказала Соф'я сваю невінаватасць. Моцна і той абвінавачаны рыцар Генрык з Рогава паспрыяў. Бо нават кінуты ў вязніцу, скатаваны дыбай ён нястомна паўтараў адно і тое ж: "Каралева не здраджвала каралю" (дарэчы, гэтыя словы далі назву майму раману пра Соф'ю і Ягайлу, іхняе атачэнне і нязвыклыя прыгоды). Суцішыўся Ягайла, прыняў доказы і апраўданні. А неўзабаве Соф'я нарадзіла другога сына. Казімірам назвалі. Ды вельмі ж кароткі век выпаў яму – памёр немаўляткам. А дынастычныя памкненні Ягайлы і Соф'і ўвасобіў трэці сынок, якога ў гонар дзеда ягонага, Соф'інага бацькі, Казімірам Андрэем назвалі.

Што праўда, той самы Генрык з Рогава і пасля зняцця з яго віны не быў адлучаны ад двара каралевы. Яна нават пэўную нерухомасць на яго запісала. Угаварыла сына свайго Казіміра, каб не аддаляў ад сябе Генрыка. Той сапраўды быў у каралеўскім атачэнні, выконваў ягоныя заданні, нават паслом ад імя караля выступаў. І мо за такую Соф'іну прыязнасць аддзячыў ёй. Пасля смерці каралевы. Нейкі невядомы дабрадзей ахвяраваў для Соф'інай капліцы ў Кракаўскім кафедральным касцёле выдатны абраз Святой Троіцы. Кажуць, што гэтым невядомым фундатарам і быў Генрык з Рогава.

Вядомы польскі пісьменнік з беларускімі каранямі Юзаф Крашэўскі адзін са сваіх гістарычных твораў пра Соф'ю Гальшанскую назваў "Маці каралёў". Так, яна сапраўды была маткай каралёў. Яе Казімір меў шэсць сыноў, чатыры з якіх насілі каралеўскі тытул. З сямі дачок пяць былі замужам за першымі асобамі заходнееўрапейскіх дзяржаў. А ўжо колькі пазнейшых Ягелончыкаў працягвалі традыцыі першапачынальнікаў, то й не злічыць. Сёння дзяржаву Ягелонаў, а гэта значыць Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае, многія гісторыкі называюць Сарматыяй.

Соф'іны сыны Уладзіслаў і Казімір, яе ўнукі і праўнукі, нават прапраўнукі амаль 200 гадоў годна пачуваліся на каралеўскіх пасадах у Польшчы, Венгрыі, Чэхіі, на вялікакняскім гаспадарстве ў Вялікім Княстве Літоўскім. І сёння яшчэ, бадай, не знойдзеш высакаўладнага еўрапейскага дома, які не меў бы повязяў з Ягелонамі. Значыць, і кропелька крыві яе, Соф'і Гальшанскай, бруіць у жылах многіх сённяшніх высокапасадных еўрапейскіх асоб.

Памяць пра сваю славутую зямлячку жыхары ашмянскіх Гальшан у 2006 годзе ўшанавалі адмысловым помнікам у яе гонар. На прыродным тутэйшым валуне змешчана яе выява і напісана: *"Соф'і Гальшанскай, дачцэ зямлі беларускай, родапачынальніцы дынастыі Ягелонаў"*.

*(Працяг будзе.)*

ПРИНЦИПИАЛЬНО!

# Открытое письмо

## представителей спортивной отрасли Республики Беларусь

Мы, нижеподписавшиеся, являясь людьми, причастными к белорусскому спорту, выступая в национальных первенствах и чемпионатах страны, а также отстаивая интересы Республики Беларусь на международной спортивной арене, категорически осуждаем многочисленные факты фальсификации результатов выборов президента Республики Беларусь, а также проявление грубого насилия со стороны силовых структур в отношении мирно протестующих граждан.

Мы все верим, что среди сотрудников правоохранительных органов есть достойные люди и настоящие профессионалы. Тем не менее очевидно, что ряд сотрудников отдали, а другие сотрудники исполнили преступные приказы по применению необоснованной, зачастую непропорциональной силы в отношении граждан Республики Беларусь.

Руководствуясь Конституцией Республики Беларусь, законодательством, мы, являясь частью народа Республики Беларусь – источника власти, требуем:

**1.** Признать прошедшие 9 августа 2020 года выборы президента Республики Беларусь недействительными ввиду многочисленных фактов фальсификаций и давления на избирательные комиссии. Требуем провести повторные выборы президента Республики Беларусь в соответствии со всеми международными стандартами, а также отставки действующего состава ЦИК с привлечением к предусмотренной законодательством ответственности.

**2.** Освободить всех граждан, задержанных во время демонстраций и не причастных к противоправной деятельности.

**3.** Освободить и реабилитировать всех политических заключенных.

**4.** Остановить противоправную деятельность сотрудников правоохранительных органов и провести проверки законности их действий, начиная с момента сбора подписей для выдвижения в кандидаты в президенты Республики Беларусь.

**5.** Выявить и наказать виновных в избиениях и зверских издевательствах над гражданами, задержанными во время мирных демонстраций. Руководители силовых структур, ответственные за насилие, должны подать в отставку.

**6.** Оказать полноценную медицинскую, психологическую, правовую и материальную помощь всем пострадавшим от неправомерных действий представителей силовых структур.

В случае появления информации о попытках давления, угроз увольнения или нарушениях прав представителей спорта, подписавшихся под этим письмом, все спортсмены будут действовать солидарно, вплоть до возможного отказа от выступления за национальную сборную страны или отказа от организации международных и национальных спортивных мероприятий. Кроме того, данные факты незамедлительно будут направлены в МОК, международные спортивные федерации и комитеты.

**Андрей КРАВЧЕНКО, серебряный призер Олимпады-2008, чемпион Европы, серебряный призер двух чемпионатов мира по легкой атлетике, заслуженный мастер спорта;**

**Дмитрий АСАНОВ, боксер, заслуженный мастер спорта, бронзовый призер чемпионата мира – 2015, победитель II Европейских игр – 2019, серебряный призер I Европейских игр – 2015.**

**Степан ПОПОВ, чемпион мира и Европы, победитель I Европейский игр по самбо, заслуженный мастер спорта, обладатель мирового диплома в спорте FairPlay;**

**Александра ГЕРАСИМЕНЯ, двукратная серебряная призерка Олимпиады-2012, бронзовая призерка Олимпиады-2016, чемпионка мира и Европы, заслуженный мастер спорта;**

**Наталия ЛЕЩИК, серебряный призер Олимпиады-2012, чемпионка и многократный призер чемпионатов Европы и этапов Кубка мира по художественной гимнастике, заслуженный мастер спорта;**

**Эльвира ГЕРМАН, чемпионка Европы – 2018 по легкой атлетике;**

**Марина АРЗАМАСОВА, заслуженный мастер спорта по легкой атлетике, чемпионка мира – 2015 и чемпионка Европы – 2014;**

**Анна ГУСЬКОВА, олимпийская чемпионка по фристайлу;**

**Александра РОМАНОВСКАЯ, чемпионка мира по фристайлу – 2019;**

**Николай КОЗЕКО, главный тренер сборной Беларуси по фристайлу;**

**Екатерина СНЫТИНА, капитан национальной команды Республики Беларусь по баскетболу;**

**Елена ЛЕВЧЕНКО, финалист женской НБА-2010, лучшая центровая чемпионата мира – 2010, бронзовый призер чемпионата Европы – 2007;**

**Ольга МАЗУРЕНОК, заслуженный мастер спорта, чемпионка Европы по легкой атлетике (марафон, Берлин-2018);**

**Елена КЛИМОВА, тренер по плаванию, заслуженный тренер Беларуси;**

**Василий ХОМУТОВСКИЙ, экс-голкипер сборной Беларуси, чемпион Беларуси, двукратный чемпион Румынии, обладатель Кубка Румынии, тренер вратарей брестского «Динамо»;**

**Александр КУЛЬ, баскетболист, бывший игрок национальной сборной Беларуси;**

**Наталья ПЕТРАКОВА, мастер спорта международного класса, старший тренер женской национальной команды по гандболу;**

**Карина ЕЖИКОВА, мастер спорта, игрок национальной сборной Беларуси по гандболу;**

**Артур УДРИС, член сборной Беларуси по волейболу, призер чемпионата Катара, бронзовый призер клубного чемпионата Катара, трехкратный чемпион Беларуси, двукратный обладатель Кубка страны;**

**Дмитрий ДЮБИН, мастер спорта международного класса по легкой атлетике, член национальной команды, бронзовый призер чемпионата Европы – 2018, серебряный призер Кубка Европы – 2019.**

*(Всего 341 подпись.)*

ДУХОЎНАЕ

Уладзімір ЛІПСКІ

# «Памілуй і ўзвысь» Малітвы.

*(Працяг. Пачатак у №№ 53-66.)*




**29** **Даруй грэх народу гэтаму з вялікай міласці Тваёй.**

*Лікі, 14: 19*

Госпадзе добры!
На зямлі, якую Ты стварыў,
ёсць месца і беларусам.
Краіна Беларусь —
пупавіна Еўропы,
прывабная мясціна,
прыгожая і багатая.
Але ж чаму, Госпадзе,
Ты пастаянна выпрабоўваеш
беларусаў
то разбуральнымі войнамі,
то голадам,
то рэзкімі зменамі,
то Чарнобылем,
то нявер'ем?..
Збаў, Госпадзе,
нас ад грахоў нашых,
бо і пасля іх даравання
застануцца шрамы.
Не патушы, Госпадзе,
у беларусаў веру,
бо ў душы тады паселіцца
начная цемра.
Не адымай, Госпадзе,
у беларусаў
іхняй зямлі, мовы, святаў,
за што яны змагаюцца стагоддзямі,
за што гатовы ахвяраваць жыццём.
Смерць страшыць толькі таго,
хто мёртвы пры жыцці.
Беларусы заўжды
былі нашчадкамі
Божага багацця.
Не дай, Госпадзе, высахнуць
празрыстай, чыстай крыніцы,
якая завецца Беларусь,
з якой наталяюць смагу
ці не ўсе славяне свету.

*Амін.*

**30** **Выпрабуй мяне, Божа, і ўведай сэрца маё; выпрабуй мяне, і ўведай намеры мае, і глядзі, ці дарога мая бяспечная, і накіруй мяне на шлях вечны.**

*Псалтыр, 138: 23–24*

Божа праведны!
У свеце, які Ты стварыў,
кожнаму чалавеку,
як птушцы крылы,
патрэбен
Выратавальнік.
Юнацтву
хочацца мець заступніка.
Сталасць
прагне самастойнасці.
Старасць
ратуецца малітвай:
«Госпадзе, памілуй і даруй,
выпраў мяне на шлях вечны,
будзь маім Выратавальнікам...»
Чалавек пачынае разумець:
ён самы вялікі начальнік над сабой.
Пазнай сябе,
перамажы сябе,
пераадолей гэты цяжкі бар'ер,
і ты — чалавек вольны,
ты — на шляху
да вечнага жыцця.
Першая прыкмета мудрасці —
усведамленне сваіх памылак,
хібаў, недахопаў.
Гэта і ёсць выратаванне душы.
Гэта і ёсць нябеснае выпрабаванне.
Дзякуй, Божа, за блаславенне!

*Амін.*

АПАВЯДАННЕ

Міхась ДАНІЛЕНКА

# ЧУЧХЕ

Бадай адной з першых у доме на новага навасельца з перадапошняга – восьмага – паверху пакрыўдзілася новая дворнічыха, ці прыбіральшчыца, як яе прывыклі называць, – Паліна. Гэта была панурая, дзябёлая ў целе маладая жанчына. Асабліва яна злавалася, калі з шэрага неба ўсё сыпаў і сыпаў шчодры снег. Тады Паліна шоргала на ўвесь мах, бы касіла, мятлой перад пад'ездам і нешта бурчала пад нос. Апраналася яна амаль заўсёды ў адну і тую ж куртку, дзе на спіне значылася, чый ЖЭС прыняў яе на працу.

Аднойчы раніцай прыгорблены дзядок у акулярах выйшаў з дзвярэй і патрусіў перад акенцамі, што былі над зямлёй, кавалачкамі ліվернай каўбасы. Паліна стаяла, нібы ўкапаная, і зласліва сачыла за чалавекам.

– Кіс, кіс! – паманіў бяздомных катоў, што цікавалі праз акенцы з падвала за шчодрым карміцелем.

– Чаго гэта вы? – не ўтрывала Паліна і зверавата ўпёрлася на чалавека.

– Кармлю. Хіба не бачыце?

– Ах, ён корміць! – здзекліва прахрыпела прыбіральшчыца. – А змятаць за імі хто будзе?

– Ніхто. Яны галодныя. Самі падбяруць. Ідзіце лепш у свой офіс.

Апошняе слова, відаць, і ўзарвала Паліну. Каморку, дзе месціліся яе брудныя вёдры, анучы, мётлы, столік, пакрыты пацёртай цыратай, ніхто не называў "офісам". Слова тое Паліна палічыла абразлівым і таму нават плюнула ў бок дзядка.

З таго дня ўсё і пачалося. Калі зрэдку жыхар выбіраўся з пад'езда і Паліна была паблізу, яна дэманстратыўна адварочвалася спінай, часам нават плявала ўслед старому, які, пастукваючы кіем, тэпаў да альтанкі ў двары.

Пад старой альтанкай на патрэсканых ад часу лаўках звычайна сядзелі жанчыны. Часцяком бывала сярод іх і Марына – худзенькая, як фасолевы стручок, жанчынка. На зіму яна прыязджала з вёскі да дачкі і жыла таксама на восьмым паверсе – на адной пляцоўцы з навасельцам.

– Сын у яго, – тлумачыла Марына кабетам. – Усё матляецца з тым – як яго? – цыркам па заграніцах... Завуць старога Карлавічам. Ага. Арнольдам Карлавічам. Нічога. Ветлівы чалавек. То сын яму тую кватэру і купіў.

Неяк непрыкметна Карлавіч часцяком (відаць, ад суму) пачаў па вечарах таксама праседжваць пад той альтанкай. Жанчыны дзівіліся адукаванасці Карлавіча. Аб чым ні запытайся ў чалавека – амаль пра ўсё расказа. Даходліва. Як усё роўна па палічках раскладзе.

Аднойчы Марына запыталася ў суседа, ці не цяжка яму, ужо ў гадах чалавеку, рабіць усё аднаму ды аднаму.

– Нялёгка, Марыначка, – прызнаўся Арнольд Карлавіч. – Ды я, можна сказаць, кіруюся адной ісцінай, ці нават вучэннем, калі хочаце. Завецца яно "чучхе".

Жанчына шырока расплюшчанымі вачыма ўтаропілася на суседа па пляцоўцы.

– Гэта ў Паўночнай Карэі так лічаць, – пачаў тлумачыць Карлавіч. – Спадзявайся на ўласныя сілы. Дык і я ўсё сам. Выкарыстоўваю, можна сказаць, тое чучхе.

Пад вечар, калі дворнічыха Паліна аб нечым шапталася са сваім мужчынам у чуланчыку, Карлавіч тлумачыў жанчынам у альтанцы, колькі ён стаптаў сцежак за сваё жыццё.

– Ой, шмат, даражэнькія. Бываў і на Алтаі, і на Далёкім Усходзе. Аднойчы ледзь у Кітай не трапіў.

Асабліва дзівіла жанчын, як ім Карлавіч расказваў пра тое чучхе.

– Гэта ж колькі гадоў таму з Паўднёвай Карэі ў Паўночную нават сотні дойных кароў нізавошта перадалі. А потым нямала мяшкоў бялюткага рысу пераправілі. Усё роўна тыя не захацелі прамяняць на сваё чучхе, – гаварыў Арнольд Карлавіч. – Жывуць галаднавата, а на чужое не квапіцца.

– Што ж за людзі? Дзіва бо, – не верылі жанчыны.

– Праўда, праўда, – ківаў галавою Карлавіч.

Хто ведае – відаць, ад злоснай прыбіральшчыцы Паліны за вочы жыхары дома і пачалі называць дзівакаватага старога Чучхе. У вочы – Карлавіч, за вочы – Чучхе.

– Нешта не відаць нашага Карлавіча ўжо каторы дзень, – часам непакоілася якая кабета пад альтанкай.

– Ды бачыла я Чучхе. У домаўпраўленні нешта пра шары, што ў двары не свецяць, усё дамагаўся... Трэба яму тое святло, як нябожчыку лазня. Мусіць, як сцямнее, дык кладзецца спаць, бы тыя каты, што ў падвале начуюць.

– Не, галубочкі, душэўны чалавек гэты Карлавіч, ці Чучхе, як вы кажаце, – не пагаджалася Марына. – Мне неяк абяцаў: прыедзе сын, дык нейкім японскім апаратам ціск зможа каму хочаш з нас памераць.

– Ой, бо! Няпраўда.

– Праўда, праўда, жанчынкі, – бажылася Марына.

Яна прызналася, што Карлавіч у сваёй кватэры паказваў ёй камяні. Розныя. Прыгожыя. Усялякія. Ніколі такіх не бачыла.

– Адзін, далібог, быццам кавалачак неба, – расказвала Марына. – Лазурытам называецца. А то яшчэ "ружа вятроў". У пустыні, кажа, калісьці знайшоў. Карлавіч некалі адкрываў і нафту, і золата. Вучоным быў. У ягонай шафе нават кавалак бурага вугалю бачыла. Недзе непадалёку ў вобласці адшукаў.

Марыніным словам адны верылі, другія – не. Але ўсе сыходзіліся на думцы: Чучхе – цікавы чалавек. Не ганарлівы. Просты. Абыходлівы. Рэдка цяпер такіх сустрэнеш.

Аднойчы Карлавіч прызнаўся Марыне: вельмі хацеў бы пабываць у Тураве.

– Там, кажуць, крыж каменны ёсць, – патлумачыў ён. – З зямлі расце. Прыкладзеш да яго далонь – цеплыню адчуваеш.

– Ой, дзіва якое! – расхвалявалася жанчына. – Ад той вёскі, дзе я бываю летам, не так і далёка да Турава... Я і не чула пра той крыж, дурніца.

– З'ездзім, калі, дасць Бог, дажывём, – паабяцаў Арнольд Карлавіч.

...Ды не спраўдзіліся ягоныя словы. Неяк раніцай Марыне сказалі: памёр яе сусед. Паведаміла прыбіральшчыца Паліна, якая не любіла Чучхе. Яна са сваім панурым сужыцелем (яго Карлавіч чамусьці называў бойфрэндам) і зносілі на радне чалавека з восьмага паверха: ліфт у той дзень не працаваў...

Пасля сын Карлавіча, які прыязджаў праводзіць бацьку ў апошні шлях, сапраўды мераў ціск японскім прыборам і Марыне, і жанчынам з другіх пад'ездаў. Нават Паліне, хоць яна і аднеквалася: ніколі хвароба да дзеўкі не прыставала. Як усё роўна з жалеза была зроблена.

А перад ад'ездам сын Чучхе выставіў і дзівосныя камяні на другім паверсе ў шафцы на пляцоўцы. Назаўсёды: так завяшчаў нябожчык. Каб людзі дзівіліся на дзівосы прыроды. Бацька ніколі не быў скупым. Быў шчодрым, адкрытым. Спадзяваўся толькі на ўласныя сілы. На чучхе.

Ды камяні тыя праз тыдзень-другі непрыкметна зніклі. Раскралі. Сцягнулі і лазурыт, і "ружу вятроў". Ад роспачы і жалю Марына ледзь не плакала. Ці ўбачыць цяпер яна той крыж у Тураве? Наўрад: сіл у шчупленькай Марыны малавата...

ФУТБОЛ

# БАТЭ даганяе «Шахцёр»

*Адбыліся матчы 22-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: "Слуцк" – "Дынама" (Мінск) – 1:2, "Іслач" (Мінскі раён) – "Шахцёр" (Салігорск) – 4:2, "Дынама" (Брэст) – "Белшына" (Бабруйск) – 1:2, "Энергетык-БДУ" (Мінск) – "Смалявічы" – 4:1, "Гарадзея" – "Рух" (Брэст) – 1:3, "Славія" (Мазыр) – "Віцебск" – 1:1, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Мінск" – 1:1, "Нёман" (Гродна) – БАТЭ (Барысаў) – 0:2.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шахцёр | 22 | 12 | 7 | 3 | 38–13 | 43 |
| БАТЭ | 22 | 13 | 4 | 5 | 44–21 | 43 |
| Нёман | 21 | 11 | 5 | 5 | 25–16 | 38 |
| Тарпеда-БелАЗ (Мн) | 22 | 9 | 8 | 5 | 32–27 | 35 |
| Іслач | 22 | 11 | 2 | 9 | 33–31 | 35 |
| Энергетык-БДУ | 22 | 10 | 4 | 8 | 32–32 | 34 |
| Рух | 22 | 8 | 9 | 5 | 33–24 | 33 |
| Дынама (Мн) | 21 | 10 | 3 | 8 | 24–15 | 33 |
| Віцебск | 22 | 7 | 9 | 6 | 23–23 | 30 |
| Дынама (Бр) | 20 | 9 | 2 | 9 | 33–25 | 29 |
| Славія | 20 | 6 | 6 | 8 | 27–37 | 24 |
| Слуцк | 21 | 6 | 3 | 12 | 24–37 | 21 |
| Гарадзея | 22 | 5 | 5 | 12 | 19–35 | 20 |
| Мінск | 19 | 5 | 4 | 10 | 20–37 | 19 |
| Белшына | 22 | 5 | 4 | 13 | 24–41 | 19 |
| Смалявічы | 20 | 3 | 5 | 12 | 21–38 | 14 |

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Как справиться с эмоциональным стрессом?

*Сейчас многие находятся в состоянии сильного стресса. Как выйти из этого состояния без потерь для здоровья?*



### Психологи рекомендуют

заняться спортом:

постараться исключить из жизни стрессовый фактор, избегать психотравмирующих ситуаций и ненужных переживаний;

не думать о плохом;

сменить обстановку, взять отпуск или больничный, уехать (хоть куда: хоть на дачный участок за город, хоть на другой континент в путешествие);

не общаться с неприятными людьми, манипуляторами, так называемыми энергетическими вампирами;

сходить в церковь, исповедаться, помолиться (иногда это успокаивает даже неверующих);

заняться самоорганизацией: придерживаться единого распорядка дня, закалять характер, учиться контролировать свою эмоционально-волевую сферу;

найти новые увлечения, которые станут источником положительных эмоций и вытеснят отрицательные (хобби, общение, шопинг, спорт, дети) – в психологии это называется трансформацией переживаний в другую энергию.

### Лечение

Существуют различные способы лечения:

аутотренинги: аффирмации на тему позитивного настроя, борьбы со страхами, повышения самооценки;

медикаментозная терапия: согласно назначениям психотерапевта, проводится курс лечения седативными препаратами;

фитотерапия: успокаивающие настои и отвары трав (валерианы, душицы, пустырника, мелисы, пиона, полыни);

дыхательные упражнения;

арт-терапия (рисование, музыка, танцы увлекают и вытесняют стрессовые переживания);

телесно ориентированная терапия;

физиотерапевтическое лечение;

медитация, йога;

Некоторые специалисты считают, что в 50% случаев стресс полезен для человека. Он заставляет его покинуть привычную зону комфорта и наконец сделать то, на что он не решался в течение длительного времени. Приходится учиться контролировать свои эмоции, что повышает самооценку. Открываются новые возможности для самосовершенствования и личностного развития.

### Последствия

Затяжной эмоциональный стресс приводит к серьезным проблемам со здоровьем: депрессия, фобии, нервное истощение, неврозы, истощение организма, головные боли, истощение иммунитета, обострение астмы и заболеваний ЖКТ (вплоть до образования или прободения язвы), сердечные приступы.

Восстановиться после эмоционального стресса бывает достаточно трудно. Чтобы сократить реабилитационный период, придется основательно поработать над собой – помогут в этом профилактические меры.

### Профилактика

Чтобы избежать повторения неприятного и достаточно опасного для здоровья состояния, нужна психогигиена и психопрофилактика стресса. Общие моменты:

Соблюдать режим дня.

Организовать 8-часовой сон.

Полноценно питаться.

Чередовать нагрузки с отдыхом.

Найти метод релаксации, чтобы своевременно сбрасывать с себя груз навалившихся проблем. Для кого-то это шопинг с подругами, для других – рыбалка, для третьих – смена обстановки.

Больше общаться, не замыкаться в себе. Делиться с кем-нибудь своими переживаниями.

Родители должны уделять детям больше внимания, чаще разговаривать с ними, вызывать на откровенные беседы.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №93/106 ад 30.04.2004. Пр-т Незалежнасці, 79/1, 220013, г. Мінск. Падпісана ў друк 24.08.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2508.